# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №2 (147)
СТУДЗЕНЬ 2014 ГОДА


**"Покліч волі" ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## " МЫ ЎЖО ЛЮДЗІ!"

**Падзеі ва Ўкраіне змушаюць да аналізу, развагаў, дзеянняў. Яны чапляюць за жывое кожнага цвярозага жыхара Беларусі. І не толькі тых, хто спавядае дэмакратычныя каштоўнасці, а й тых, хто закансерваваўся ў сваёй абыякавасці. Але найперш уладу і іхніх прыкарытнікаў. Апошніх таму, бо гэтым ёсць, што губляць.**

Вярніцеся ў савецкія часы і паглядзіце на розніцу ў даходах паміж сярэднім класам і чынавенствам – яна была нязначнай. Зараз гэтая розніца складае астранамічныя лічбы. Ці не ўсе чыноўнікі сталі бізнесменамі. У цывілізаваных краінах свету гэтая розніца не такая жахлівая, як тут.

Але як фармаваўся, як выспельваў гэты бізнес? У сваёй бальшыні – рэйдэрскія захопы, прысабечванне дзяржаўнай маёмасці, злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі… За постсавецкі час вырасла цэлае пакаленне маладых авантурыстаў без усялякіх маральных прынцыпаў і элементарнай прыстойнасці, бацькі якіх своечасова зразумелі, у які бок падзьмуў вецер пераменаў.

Уявіце сабе: за часамі Януковіча ва Ўкраіне ўсе значныя пасады ад прэзідэнта да дырэктара могілак былі занятыя выхадцамі з Днепрапятроўскай вобласці. А старэйшы сын Януковіча за палову мінулага году павялічыў свой капітал з 187 мільёнаў да 510 мільёнаў даляраў. Якія надзвычайныя эканамічныя здольнасці! І вы ў гэта верыце?

Расейскія ды тутэйшыя тэлеканалы распавядаюць нам пра тэрарыстаў, бандытаў, авантурыстаў, якія нібыта дэстабелізуюць абстаноўку. Хто ж насамрэч супрацьстаіць уладзе і чаго дабіваюцца пратэстоўцы?

Як атрымоўваецца на Майдане і ў іншых месцах – звычайныя людзі, украінцы, рускія , беларусы і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў, якія паўсталі супраць ілжы, карупцыі, несправядлівасці, супраць галечы, у якой жыве большасць народу на тле залатых унітазаў Януковіча ў ягонай рэзідэнцыі ў Межыгор'і, палацаў і забаваў алігархаў.

Прывяду доўгую цытату вядомага рэжысёра Сяргея Лазніцы, які здымае фільм пра Майдан, які на ўласныя вочы бачыў, што там адбываецца: " Это государство в государстве, два квадратных километра с населением от 15-20 тысяч до миллиона человек. В ночь, когда ожидали штурм, там было сто тысяч. Как нужно достать свой народ, чтобы сто тысяч жителей, граждан страны, которые днем работали, пришли стоять ночью, протестовать и заявлять, что они не боятся этой власти! Эпицентр Майдана – сцена, которая работает 24 часа в сутки с небольшими перерывами. Со сцены, в отличие от московских митингов, выступает не 10-15 известных человек, а выступает народ. То есть там читают стихи, поют песни, исполняют оперные арии, там я слышал классическую музыку... Я думаю, что все группы Украины выступили на этой сцене. Выступают главы администраций разных регионов. Я слышал речь мэра Тернополя, мэра Ивано-Франковска и так далее. Выступают просто граждане страны. После каждого заседания Верховной Рады вечером выступали лидеры оппозиции и советовались с вече. Фактически это Киевская сечь. Это, конечно, не может не поражать, не удивлять, даже восхищать.

Я бы сравнил это с лоном, где вы чувствуете себя в атмосфере эйфории, счастья. Вот это начальное состояние, когда вы можете мечтать о том, какова могла бы быть жизнь, – эта иллюзия тоже там присутствует. И что очень важно для Украины – это такая певучая нация, и вы это не можете не чувствовать. Когда 250 тысяч поют гимн Украины, а он же красивый, этот гимн, – это восхищает".

Гэта паўстанне супраць сапраўды бандыцкіх метадаў, якія ўвёў прэзідэнт Януковіч. Нездарма людзі скандуюць на ўсіх майданах: «Банду геть!».

Калі пры прэзідэнце Леанідзе Кучме знік журналіст Георгі Гангадзэ, ва Ўкраіне пачалася масавая акцыя «Украіна без Кучмы», якая ўскалыхнула ўсю дзяржаву. Зараз ужо 6 трупаў, некалькі зніклых, сотні параненых, як павінна рэагаваць нацыя?

У пятніцу ў Львове тысячы людзей хавалі закатаванага ў лесе пад Кіевам сэйсмолага Юрыя Вярбіцкага, выкрадзенага са шпіталя пасля ранення і забітага невядомымі. Праз некалькі дзён у Гомелі пахаваюць беларуса Міхаіла Жызнеўскага, якога застрэлілі куляй у сэрца. У Днепрапятроўску аплакваюць свайго земляка армянскага паходжання Сяргея Нігаяна. Яны загінулі за свабодную Украіну. Іхнія смерці аб'ядналі ў журбе ды гневе Ўсход і Захад Украіны. А яшчэ Беларусь і Армэнію.

Гэтыя смерці ўскалыхнулі ўсю Украіну — і Майдан пайшоў у рэгіёны. Адна за адной здаюцца абласныя адміністрацыі, іх кіраўнікі пішуць заявы пра адстаўку. Але ў адрозненні ад падзей 2004 года, няма масавай падтрымкі Януковіча. Нават данецкія «ультрас», футбольныя фанаты, выступілі супраць ураду Януковіча. Людзі на ўсходзе лепей ведаюць, што гэта за ўлада.

Карупцыя, прадажныя суды і раней былі характэрныя для Ўкраіны, але пры Януковічу карупцыя вырасла настолькі, што застагнаў увесь народ.

Але фактычна ўвесь крызіс справакаваны Масквой, Пуціным. Гэта ніяк не хавала сама Масква, якая спачатку ўводзіла эканамічныя санкцыі супраць Украіны, зрывала яе пагадненне аб асацыяцыі з Эўразьвязам, цiснула на Януковіча, а пазней, калі ёй гэта ўдалося, адразу дала Януковічу 15 мільярдаў даляраў дапамогі і цяпер вядзе вялікую прапагандысцкую кампанію супраць вольналюбівых украінцаў. Былыя супрацоўнікі ўкраінскіх спэцслужбаў кажуць, што з Масквы нават прысылаюць гранаты, якія беркутаўцы кідаюць у натоўп.

Але нічога не расце на пустым месцы – гэта паўстаньне нашчадкаў тых змагароў, якія баранілі Ўкраіну спачатку ад захопніцкіх памкненняў расейскіх цароў, а потым ад чырвона-гэбоўскай набрыдзі пасля Кастрычніцкага пераварота і Другой сусветнай вайны.

Народнае паўстанне ва Ўкраіне ёсць натуральным абурэннем народа супраць чужой бязлітаснай улады постсавецкага хама, гопніка, калхазана, які дапяўшы да ўладнага карыта, паспытаў ап'янялны пах грошай, беспакаранасці і нябачаных раней магчымасцяў для задавальнення сваіх скоцкіх памкненняў. Паспытаў і перайшоў усе магчымыя абмежаванні. Як казалі нашы продкі: " Не дай Бог свіні рог, а хамуйле панства".

Таму і захацелі ўкраінцы простых і зразумелых еўрапейскіх прынцапаў і каштоўнасцяў, дзе законы пішуцца не купкай узурпатараў улады, а ўсім грамадствам. І пішуцца дзеля таго, каб роўнымі перад законам былі і бомж і прэзідэнт. А калі закон парушаецца, на вуліцы выходзяць сотні тысяч і мільёны. Вось гэта і ёсць дэмакратыя – улада народа.

А калі народ не ўплывае на падзеі ў краіне – гэта ўжо маўклівае быдла, якое раней ці пазней усё адно завядуць на бойню. Таму так кранальна гучаць словы прачытаныя на адным з плакатаў кіеўскага Майдану: " Януковіч, ты не зразумееў: " Мы ўжо людзі!"

**Рэдактар**

*Партал твайго раёна: http://vicebskreg.by*

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ПАСЁЛАК АДРЭЗАНЫ АД "ВЯЛІКАЙ ЗЯМЛІ"

**Анамальна цёплая зіма прынесла жыхарам пасёлка Сураж вялікія праблемы. Тут усё чакаюць маразоў. Тады да цывілізацыі, кажуць мясцовыя, будзе рукой падаць.**

Паромную пераправу ўжо знялі, і цяпер, каб трапіць у цэнтр пасёлка, па аб'язной дарозе трэба рабіць крук пад 100 кіламетраў. Заходняя Дзвіна - адна з найбуйнейшых рэк Беларусі - пасёлак Сураж дзеліць практычна напалову і кожны год стварае гэтым праблемы для мясцовых жыхароў. Увесну і ўвосень на левым беразе застаюцца ўсе сацыяльныя аб'екты: сельсавет, банк, універсам. На правым - адзіная крама і каля 100 жыхароў. Пасёлак невялікі, але каб перабрацца на другі бок, прыйдзецца зрабіць крук у 100 кіламетраў.

Максім Кісялевіч, жыхар Суража: "Раней, калі зімы былі нармальныя, рака станавілася ўжо ў лістападзе, а цяпер няма сезона - вось і трымаецца, няма пераправы, а на гэта была ўся надзея..."

Восем месяцаў у годзе два берага звязвае паромная пераправа. Напярэдадні халадоў яе прыбіраюць. Звычайна хапала пару зімовых тыдняў, каб маразы скавалі ваду. Па лёдзе людзі ходзяць да вясны, і потым зноў на выручку прыходзіць парай. Аднак у гэтым годзе з-за капрызаў надвор'я без пераправы вяскоўцы пакутуюць ужо паўтара месяца.

Тутэйшыя школьнікі ходзяць адразу ў дзве школы. Усё залежыць ад надвор'я: пайшоў лёд - значыць, за ведамі ўсе адпраўляюцца ўжо не ў цэнтр Суража, а ў суседнюю вёску Заполле. І так - з першага класа.

Лена Максімава, вучаніца 10 класа Запольскай сярэдняй школы: "Ідэя была, але ажыццявіць яе немагчыма. Лодкі сваёй няма, а больш нічога не пераправляе, таму даводзіцца сюды ездзіць".

"Богам забыты край" - горка жартуюць вяскоўцы. Нават храм і той на другім беразе. Рачная навігацыя ў гэтым годзе завяршылася ў снежні. Аб лодках вяскоўцы ўспамінаюць ў крайніх выпадках. Тарыф - 10 тысяч у адзін бок.

Зараз на Заходняй Дзвіне час вялікіх пераменаў. Ужо ідзе будаўніцтва двух ГЭС - Полацкай і Віцебскай. Узровень вады вырасце на пяць метраў. І рака стане яшчэ непрыступнай. У Бешанковіцкім раёне ў вёсцы Ула праблему адрэзаных вялікай вадой дамоў вырашыць мост. У Суражы застаецца толькі марыць аб пераправе, якая б не залежала ад капрызаў надвор'я.

Віктар Шалупкін, начальнік участка "Сураж" ЖКГ Віцебскага раёна: "Зіма раптам прыйшла ў снежні, а потым адпусціла, і зноў наступіла вясна. Гэта наклала свой адбітак. Каб зноў запусціць навігацыю, патрабавалася падрыхтаваць дакументацыю, у працоўны стан прывесці суда. Трэба не адзін і не два дні. А дзе гарантыя, што зіма не вернецца?"

Мост калі і быў у планах, то ў канцы 80-х. Сёння жыхары просяць, каб пра іх праблемы хаця б не забывалі. У мінулым годзе лёд сышоў хутка, а паромная пераправа зарабіла толькі ў ліпені.

**Чытаць цалкам : http://news.tut.by/society/382292.html**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# СНЫ АБ ЛЕПШАЙ БУДУЧЫНІ

**На extremal.by з'явілася інфармацыя пра тое, што на гарналыжных трасах у Рубе пад Віцебскам адключылі электрычнасць... Снегавая гармата маўчыць, пад'ёмнік і ўплатніцель снегу (ратрак) камянеюць у нерухомасці.**

Сітуацыю растлумачыў трэнер па горных лыжах абласнога цэнтра алімпійскага рэзерву Сяргей Радзевіч: справа ў тым, што на гару перасталі падаваць электрычнасць. Раней за святло плаціў ААТ "Даламіт", а потым галоўны энергетык прадпрыемства сказаў, што гэтая гара нікому не патрэбная і святло проста адключылі. А без электрычнасці не працуюць ні гармата, ні пад'ёмнік, якія знаходзяцца ў поўнай баявой гатоўнасці.

Людзей, якія прагнуць пакатацца шмат, і таму прыходзіцца тлумачыць, што ўсё можа атрымацца не раней чым праз два тыдні.

Гара цяпер знаходзіцца пад апекай цэнтра алімпійскага рэзерву. І ЦАР згодны плаціць за ўсё, таму што дзецям трэба трэніравацца. Але ёсць загвоздка: пад'ёмнік і гармата знаходзяцца ва ўласнасці «Даламіту». Каб аплаціць іх падлучэнне, "Даламіт" павінен перадаць іх ЦАРу, для чаго патрэбны дазвол міністэрства. А каб атрымаць дазвол, трэба яшчэ шмат чаго... і г.д. Выйсцем можа быць набыццё магутнага бензагенератара. Але і тут усё ўпіраецца ў грошы. Тым больш, што энергазатратную гармату бензагенератар не выцягне (толькі пад'ёмнік).

Сама траса вельмі пасуе для трэніровак. Практычна гэта адна з лепшых горак ў Беларусі. У Мінску мільёны даляраў ўклалі ў той жа Курасоўшчыне, а тут... вось лапаткай параўняеш - і добра…

У турыстычных каталогах рубаўскія горы праходзяць як «гарналыжны цэнтр». Але «цэнтрам» тут і не пахне. З сэрвісу – толькі вясковы сарцір зялёнага колеру за вуглом, ды пракат лыж, цэны за якія пакуль не ўстаноўлены.

Недалёка ад спуску стаіць будынак, які на працягу 15 гадоў выкарыстоўваўся ў якасці распранальні для юных гарналыжнікаў. Але нядаўна ўваходзіць у яго строга забаранілі (будынак належыць ЖКГ).

У мінулым годзе дайшло да суда. Трэнера Сяргея Радзевіча судзілі за самаўпраўства. Уявіце: мароз, дзеці цягнуць лыжы на плячах, у іх соплі цякуць, змакрэлі, пакаталіся, змерзлі - і ўсе хварэюць.Зразумелая справа, трэнер адкрываў замок, упускаў дзяцей, падпальваў печку, каб тыя маглі пагрэцца і чайку папіць.

Становішча пагаршаецца й тым, што тэрыторыя гары вызначана як апоўзневая зона (дарэчы, менавіта з-за таго, што аднойчы здарыўся апоўзень былы гаспадар дома адмовіўся тут жыць, дом выкупіла дзяржава). З улікам існуючай небяспекі: будаўніцтва якіх-небудзь аб'ектаў сэрвісу тут забаронена. Ну і вось, як укладваць сюды грошы? Можна толькі ўкладаць сваю працу, забясплатна.

Хочацца нагадаць, што яшчэ з 2005 года ходзяць размовы і лунаюць праекты аб будаўніцтве ў Рубе ці то курорта , ці то «аздараўленча - забаўляльнага цэнтра». Кажуць, нібыта маецца нават і эскізны праект (юджэт 4 млн. еўра), які прадугледжвае будаўніцтва добраўпарадкаванай гасцініцы і аб'ектаў грамадскага харчавання…

Але пакуль што ратрак бачыць сны аб лепшай будучыні ...

**extremal.by**

КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ

# У ВІЦЕБСКУ АЖАНІЛІ ЦЯРЭШКУ

**Калядная абрадавая гульня "Жаніцьба Цярэшкі" прайшла 17 студзеня ў памяшканні "Залатога кола Віцебска "Дзвіна".**

"Жаніцьба Цярэшкі" — жывы элемент нематэрыяльнай культурнай спадчыны Беларусі звязны з калядным цыклам. Магчыма ў глыбокім мінулым яна была пашыраная па ўсёй Беларусі, а зараз захавалася толькі на поўначы краіны.

Першапачатковай функцыяй гульні было бліжэй пазнаёміць нежанатую моладзь, прымерыць на сябе ролю жанатых людзей. Сутнасць абраду — згуляць жартаўлівае вяселле з імітацыяй вясельных абрадаў, багаццем народных песень, танцаў і жартаў.

У Віцебску ўжо чацвёрты раз традыцыйна "Жаніцьбу Цярэшкі" праводзіла з мясцовае студэнцка-этнаграфічнага таварыства "Поўнач". Сёлета, праўда, не дабраліся з Лепеля пастаянныя музыкі гэтай забавы — дудар Васіль Шкіндзер і скрыпачка Вольга Зарэцкая. Таму скокі і гульні адбываліся часткова пад фанаграму, а часткова пад не менш старажытны за дуду інструмент — ліру.

Дарэчы, у гэтым годзе ў Задзвінне ладзіць "Жаніцьбу Цярэшкі" прыйшло некалькі параў з дзецьмі, што значыць мінулыя тры гульні прайшлі з плёнам.

**news.vitebsk.cc**

# ВЫСТАВА ЖАНОЧЫХ ПАРТРЭТАЎ

**Персанальная выстава кітайскага жывапісу "Люстра часу" маладой беларускай мастачкі Марыны Эльяшэвіч адкрылася ў музеі-сядзібе І.Рэпіна "Здраўнёва", перадае карэспандэнт.**

Марына Эльяшэвіч выставіла 10 жаночых партрэтаў, выкананых у тэхніцы кітайскага жывапісу тушшу і мінеральнымі фарбамі на рысавай паперы. "Праект ствараўся адмыслова для гэтай сядзібы і прысвечаны пачатку XX стагоддзя. На палотнах вобразы дзяўчат, якія жылі ў эпоху Іллі Рэпіна. Гэта спроба звязаць сённяшні дзень і мінулае. "Люстра часу"- гэта сучаснасць, адлюстраваная ў мінулым", - сказала яна на вернісажы.

Мастачка падкрэсліла, што ў яе творчасці аб'ядноўваюцца дзве культуры. "Выкарыстоўваю кітайскія матэрыялы і тэхніку, а эмоцыі і натхненне - беларускія", - адзначыла Марына Эльяшэвіч.

Паводле яе слоў, упершыню яна трапіла ў "Здраўнёва" у мінулым годзе і з тых часоў хацела вярнуцца сюды, але ўжо не з пустымі рукамі і вось - мара спраўдзілася.

Загадчык філіяла "Здраўнёва" Віцебскага абласнога краязнаўчага музея Аляксей Сухарукаў падкрэсліў, што цікавасць да супрацоўніцтва ў бакоў узаемная. "Акрамя персанальнай выставы, якая будзе доўжыцца да лютага, дамовіліся аб тым, што вясной мастачка правядзе ў нас майстар-клас і прыме ўдзел у пленэрах. Гэтая выстава і узаемнае супрацоўніцтва праходзяць пад знакам двух юбілеяў, якія музей-сядзіба адзначае ў гэтым годзе: 170 гадоў з дня нараджэння Ільі Рэпіна і 25-годдзе музея. Персанальная выстава Марыны Эльяшэвіч "Зеркало часу" адкрывае шэраг юбілейных мерапрыемстваў, якія пройдуць у "Здраўнёва", - падсумаваў Аляксей Сухарукаў.

**БЕЛТА**

ЭКАНОМІКА

# СТРАТЭГІЯ РАЗВІЦЦЯ

**ААТ «БелВітуніфарм» і Віцебская біяфабрыка пасля аб'яднання разам будуць вырашаюць задачу імпартазамяшчэння і забеспячэння лекавай бяспекі краіны. Новае прадпрыемства адпавядае міжнародным патрабаванням у галіне выпуску і кантролю якасці лекавых сродкаў.**

За 5 папярэдніх гадоў «БелВітуніфарм» не змог ў поўнай меры ажыццявіць вытворчасць лекавых сродкаў па поўным цыкле і павялічыць выпуск імпартазамяшчальнай прадукцыі. Спачатку расійскія інвестары адмовіліся ад супрацоўніцтва з беларускімі фармацэўтамі, хоць з імі ўжо меліся дамоўленасці аб стварэнні ў вобласці СТАА «Вітуніфарм». Затым у 2011 годзе прадпрыемства было акцыянавана з удзелам іарданскай кампаніі «JPM», якая ў самыя кароткія тэрміны мела намер наладзіць выпуск фармацэўтычных прэпаратаў. Але з-за сусветнага эканамічнага крызісу тэрміны рэалізацыі планаў ссунуліся. У цяперашні час тут дзейнічае толькі лінія па фасоўцы і ўпакоўцы таблетак, якія паступаюць з Іарданіі.

Для таго, каб паскорыць ўвасабленне праекта па стварэнні новага фармацэўтычнага прадпрыемстваў Віцебскуў 2012 годзе было вырашана падключыць новага гульца - Віцебскую біяфабрыку, якая размяшчае шматгадовым вопытам (больш за 80 гадоў на рынку) выпуску прэпаратаў для патрэб ветэрынарыі. Гэта найбуйнейшае ў Беларусі прадпрыемства біялагічнай прамысловасці. Пасля рэалізацыі ў 2006-2010 гадах інавацыйнага праекта тут выпускаюць не толькі вакцыны і сыроваткі для жывёл, але і фармацэўтычныя прэпараты для ветэрынарыі - антыбіётыкі, антыгельмінцікі, растворы для ін'екцый і інфузорыі, мазі, вітаміны, кансерванты, дыягнасцікумы.

На сённяшні дзень у Доўжы Віцебскага раёна вырабляецца больш за 100 найменняў ветэрынарных прэпаратаў сусветнай якасці. Штогод гэтая лічба павялічваецца на дзясятак за кошт ўкаранення уласных рэцэптур і распрацовак вучоных ветэрынарнай акадэміі і інстытута эксперыментальнай ветэрынарыі імя Вышалескага. Немалаважна і тое, што попыт на ветпрэпараты няўхільна расце. Пачынаючы з 2006 года, рэалізацыя вырасла ўтрая, зараз пастаўкі складаюць каля 35 тон у год. Прадукцыя запатрабавана не толькі на беларускім рынку, але і ў Расіі, Казахстане, Азербайджане, Турцы. Геаграфія экспартных паставак пастаянна пашыраецца: беларускія прэпараты паступаюць у Узбекістан, вывучаюцца магчымасці іх рэалізацыі ў Кітаі, Японіі, Індыі і В'етнаме. Прапрацоўваюцца напрамкі супрацоўніцтва з замежнымі калегамі па абмене тэхналогіямі і асваенню новых рынкаў.

Па сцвярджэнні дырэктара ААТ «БелВітуніфарм» Мікалая Нявінскага, да 2015 года каля 80 % ветэрынарных прэпаратаў і лекавых сродкаў будзе выраблiцца ўнутры Беларусі, а не імпартавацца. З выхадам на праектную магутнасць прадпрыемства штогадовая эканомія бюджэтных сродкаў за кошт імпартазамяшчэння складзе 60-70 млн даляраў. Новыя тэхналагічныя лініі дазваляюць сертыфікаваць вытворчасць у адпаведнасці з міжнароднымі патраба-ваннямі, што павысіць экспартны патэнцыял прэпаратаў. Да 2015 года плануецца выйсці на рынкі 12 дзяржаваў, а аб'ём экспарту ў краіны СНД давесці да 30% ад аб'ёму прадукцыі...

**Паводле http://vitvesti.by**

ЭКАНОМІКА

# ПРЫВІД НАРКАМАНІІ БЛУКАЕ ПА РАЁНЕ

**15 снежня 2013 паблізу в. Вароны Віцебскага раёна супрацоўнікамі НіПТЛ УУС, Віцебскага і Лёзненскага РАУС, АДАІ, АМАП палка ППСМ УУС выяўлена і канфіскавана 47,8 г. наркатычнага рэчыва расліннага паходжання.**

УСК па Віцебскай вобласці распачата крымінальная справа па ч. 1 арт. 328 КК Рэспублікі Беларусь у дачыненні да двух навучэнцаў УА «Віцебскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжу» і навучэнца УА «Віцебскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя №1», жыхароў Віцебска.

Прычынай паслужыла выяўленне і канфіскацыя ў маладых людзей супрацоўнікамі НіПТЛ УУС, Віцебскага і Лёзненскага РАУС, АДАІ, АМАП палка ППСМ УУС 47,8 г. рэчывы расліннага паходжання, які змяшчае ў сваім складзе метанон.

**Ян Сведка**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч Волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Покліч Волі».*

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

ДАТА

# МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

**Міжнародны дзень роднай мовы адзначаецца штогод 21 лютага з мэтай узняць пытанні моўнай і культурнай разнастайнасці і шматмоўнасці. Гэта дата была ўпершыню абвешчана ЮНЭСКА 17 лістапада 1999 года. Адзначэнне гэтага дня было таксама прызнана Генеральнай асамблеяй ААН у яе рэзаюцыі 2008 года, якая абвяшчала гэты год Міжнародным годам моў.**

Міжнародны дзень роднай мовы паўстаў як вынік міжнароднага прызнання Дня руху за мову, які адзначаецца ў Бангладэш з 1952 года. У тым годзе шмат студэнтаў былі забітыя пакістанскай паліцыяй у горадзе Дака падчас пратэстаў, арганізаваных Рухам за мову бенгалі.

Мовы з'яўляюцца самым моцным інструментам захавання і развіцця нашай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны. Паводле ацэнак ЮНЕСКА палова з 6 тысяч моў свету могуць у бліжэйшы час страціць апошніх носьбітаў.

Усе крокі па спрыяння распаўсюджвання родных моў служаць не толькі садзейнічанню моўнай разнастайнасці і шматмоўнай адукацыі, развіццю больш поўнага знаёмства з моўнымі і культурнымі традыцыямі па ўсім свеце, але і мацуюць салідарнасць заснаваную на ўзаемаразуменні, талерантнасці і дыялогу.

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ - МАЙДАН

# Я ДУМАЛА ЗАСТАЦЦА ЎБАКУ…

**Ніколі я нічога тут не пісала, але цяпер не магу маўчаць. Тры гады я жыву ў Кіеве. Тры гады я хаджу па гэтых вуліцах, сябрую, працую і маю стасункі з гэтымі людзьмі. Маю стасункі не толькі з калегамі па працы, а з прадаўцамі, таксістамі, суседзямі, кансьержамі, домаўладальнікамі і бізнэсменамі … Я была ў Прыкарпацці і ў Закарпацці. І ні разу, чуеце, ні разу я не сутыкалася з непрыманнем рускіх ці яўрэяў, ні на бытавым, ні на грамадскім узроўні.**

З першых жа слоў мяне вызначалі ўсюды — «Вы масквічка? Па гаворцы чуваць». Спачатку я — паўяўрэйка-паўмаскалька — жудасна напружвалася, але пасля пагадзілася з тым, што я і праўда масквічка, і гэтая тэма больш не падымалася — калі я сама яе не развівала. Прыязны тон не мяняўся, нідзе ні разу не зрабілі выгляд, што не разумеюць маю рускую мову.

Так, у мяне былі праблемы, і як ні дзіўна, менавіта з калегамі — хоць нічога дзіўнага ў гэтым і няма. Свет тэлебачання — гэта свет, дзе ўсе мы працуем з «мовай». Але яшчэ гэта свет, дзе збіраюцца людзі з усёй краіны. Тут плячо ў плячо працуюць прыезджыя з Армянска (Крым) і з Івана-Франкоўска (Захад).

Так, многія, хто прыехаў з захаду, не вельмі ж ведаюць рускую — у іх яна была 2 гадзіны на тыдзень, як замежная, ды яна і праўда для іх замежная, бо, падабаецца нам, расейцам, гэта ці не, Украіна – гэта, як раней казалі,«заграніца».Так,наскрозь працятая асабістымі сувязямі, якія значна мацнейшыя за любыя грамадскія дамовы, але замежжа, са сваімі законамі, традыцыямі, мовай, гімнам і іншымі атрыбутамі самастойнай дзяржавы.

Так, нам з калегамі, напэўна, было цяжка спачатку: ім, не вельмі абазнаным у рускай мове, і мне, зусім не абазнанай ва ўкраінскай. Але мы вельмі стараліся адзін аднаго зразумець, і праз пару месяцаў я перастала вылупляць вочы, калі яны пераходзілі на ўкраінскую хуткамоўку, а яны перасталі з задуменным выглядам спрабаваць перакласці ў галаве маю рускую мову.

І вось здарыўся ён — Майдан. З Масквы мне тэлефануюць сябры, сваякі і калегі. Яны ўсе шчыра баяцца за мяне, перажываюць, што я апынулася тут, у Кіеве, падчас рэвалюцыі. Яны шчыра лічаць, што на Майдане сабралася купка маргіналаў і значна большая колькасць неанацыстаў — агрэсіўных, якія закідвалі кактэйлямі молатава няшчасных праваахоўнікаў-беркутаўцаў. Маргіналаў, якія не маюць ні пачуцця самазахавання, ні пачуцця адказнасці за сваю краіну. У гэтым расейцаў цэлыя суткі пераконвае расійскае тэлебачанне.

Калі невідушчага пераконваць, што чорнае гэта белае, а белае — чорнае, рана ці позна ён у гэта паверыць. Дык вось, я яшчэ не ў натоўпе, пакуль я была толькі збоку. Я адсочваю сітуацыю па розных крыніцах.Я яшчэ не ўзбуджаная, не натхнёная Майданам знутры, так што пакуль не магу меркаваць аб'ектыўна. Я ведаю тых, хто там стаіць. Паверце — гэта не маргіналы, гэта не бандэраўцы, якіх нібыта звезлі з заходняй Украіны.

Гэта людзі, з якімі я маю зносіны блізка, а з некаторымі літаральна кожны дзень. Гэта Кіяўляне. Гэта мае калегі, якія без пафасу, без крыку кожны вечар\ дзень\ноч стаяць на Майдане — не па прафесійным абавязку — а па грамадзянскім. Маладыя, ім да 35, таленавітыя, з вышэйшай адукацыяй людзі.

Гэта мая сяброўка-пенсіянерка, інтэлігентная дама з трыма вышэйшымі адукацыямі. Гэта іншая мая сяброўка, галоўны бухгалтар фірмы. Гэта сям'я: бацька-бізнэсмен, сын-мастак і дачка — кіраўнік праекта. Вось гэтыя людзі — гэта 80 % Майдана.

Яны не імкнуліся выходзіць на вуліцу. Яны былі вымушаныя. Пачуццё ўласнай годнасці і адказнасці за сваю краіну, за сваіх дзяцей і за будучыню прымушае іх стаяць ужо амаль 2 месяцы, цяпер у 20-градусны мароз.

Не, не за еўраінтэграцыю або ўласныя амбіцыі. Яны выходзяць пасля першай жа зачысткі Беркута. Таму што ў іх свядомасці не ўкладаецца, што мірных грамадзян можна не проста біць — амаль забіваць, дабіваючы тых, хто ўпаў, нагамі. Што пажылую жанчыну, якая на каленях моліць, каб не забівалі яе састарэлага, ужо збітага да паўсмерці мужа — можна ўдарыць дубінкай па твары. Што студэнта можна распрануць дагала, пусціць праз строй людзей з дубінкамі, якія потым будуць разразаць яму нажом сакральнае месца.

Яны не могуць і не хочуць так жыць. Яны не хочуць пакінуць такі свет сваім дзецям. І я паважаю іх.

Улада справакавала гэта, менавіта ўлада адказная за тое, што мірны мітынг, у выніку, стаў месцам бойкі. Улада, якая аддае злачынныя загады, якая галасуе за непрымальныя законы, якая прывозіць «цітушак»-гопнікаў з усёй краіны для правакацый. Удумайцеся — так майданаўцы абараняюць свае права на свабоду ўжо з кактэйлямі Молатава і самаробнымі каламі, але супраць іх стаяць узброеныя і навучаныя людзі ў поўнай экіпіроўцы, якія першымі ўжылі гвалт да мірных грамадзян.

Украіна — не Расія. Тут такія выхадкі проста так не праходзяць.

І вось цяпер людзі Майдана абвешчаныя па-за законам. І я, ведаючы іх, разумею — воні не пійдуть з Майдану. Так, ім страшна — таму што там б'юць, таму што ўжо страляюць і невядома, што можа быць праз некалькі гадзін, але воні не пійдут. Таму што яшчэ страшней думаць пра тое, што будзе заўтра з імі і з краінай — калі сёння яны адступяць.

І сёння я ўжо не застануся збоку. Так, матуля, ты ўмольвала мяне нікуды не лезці, даруй, мам, але сёння я буду там, побач са сваімі калегамі і сябрамі, побач з кіяўлянамі, нават калі таксама апынуся па-за законам. Але калі мяне там не будзе — я назаўжды страчу спакой.

Я заўсёды захаплялася ўменнем украінцаў не дазваляць уладзе барзець, а зараз захапляюся яшчэ больш, і я пайду на Майдан падтрымаць людзей, з якімі плячо ў плячо жыву тры гады. Людзей, настолькі гордых і неабыякавых да свайго ўласнага лёсу і да будучыні сваёй краіны.

Слава Украіне, Героям слава!

**Ганна Голанд, масквічка, якая працавала і ўжо жыве ў Кіеве**

ЯК БЫЛО

# ЯКІЯ ПЫТАНЬНІ НЕ ПРАПУСЬЦІЛА ЦЭНЗУРА

**«Парэзалі толькі мае пытаньні, а таксама значную частку адказаў Аляксандра Лукашэнкі, – распавёў Свабодзе дырэктар кампаніі БелаПАН Алесь Ліпай.**

21 студзеня Аляксандар Лукашэнка правёў у Палацы незалежнасьці сустрэчу з кіраўнікамі 11 беларускіх мэдыяў. Сустрэча доўжылася амаль 5 гадзінаў. Беларускае тэлебачаньне паказала паўтарагадзінную трансьляцыю.

Алесь Ліпай распавёў Радыё Свабода, што не паказала БТ з сустрэчы прэзыдэнта з кіраўнікамі СМІ:

«Фактычна выразалі маё пытаньне, ці будуць падпадаць пад амністыю палітычныя зьняволеныя. Я канкрэтна прывёў прыклад Статкевіча і Бяляцкага і патлумачыў, чаму я лічу, што яны мусяць быць вызваленыя.

Не паказалі і ягоны адказ, дзе ён даў даручэньне Радзькову праверыць мае інфармацыю пра выплату за кошт грамадзкіх ахвяраваньняў стратаў, якія, паводле суду, былі нанесеныя Бяляцкім дзяржаве. І калі гэта сапраўды так, сказаў Лукашэнка, то трэба будзе чалавека вызваляць.

Таксама не паказалі адказ Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што Статкевіч можа проста напісаць прашэньне пра памілаваньне, не прызнаючы сваю віну, і ў адпаведнасьці зь дзейным парадкам гэтае пытаньне будзе разгледжана.

Даволі сур'ёзна парэзанае маё пытаньне пра беларускую мову. Я гаварыў пра тое, што яна набывае папулярнасьць цяпер у грамадзтве. І не дзякуючы дзяржаве, а дзякуючы грамадзкім ініцыятывам. Прывёў прыклады курсаў «Мова ці кава» і «Мова нанова». Прывёў прыклад, як зарэгістраваная арганізацыя – Таварыства беларускай мовы – мусіла зьбіраць ахвяраваньні, каб заплаціць за офіс. І прапанаваў ужо другі раз яму ўвесьці практыку дзяржаўных грантаў для арганізацый, якія спрыяюць разьвіцьцю беларускай мовы.

Фактычна ён даў даручэньне Радзькову разгледзець гэтае пытаньне. Сам сказаў, што станоўча ставіцца да беларускай мовы і хоча, каб на ёй гаварылі можа нават больш, чым я. Дарэчы, ягоны адказ на гэтае пытаньне таксама сур'ёзна парэзалі. А з таго, што паказалі, было даручэньне Радзькову разгледзець варыянт адкрыцьця курсаў беларускай мовы пры інстытутах і ўнівэрсытэтах».

Алесь Ліпай упэўнены, што ісьці на сустрэчу было варта:

«Трэба чалавеку гаварыць пра тое, што існуюць іншыя меркаваньні ў беларускім грамадзтве. Нягледзячы на тое, што Павал Якубовіч узьняў пытаньне пра палітычных зьняволеных, я гэтае пытаньне канкрэтызаваў, гаварыў пра канкрэтных людзей. Я атрымаў ад яго фактычна гарантыю таго, што пытаньне аб іх вызваленьні будзе разгледзенае. Я спадзяюся, што гэта сапраўды так. Бо ўтрымліваць іх за кратамі ня мае для яго палітычнага сэнсу, і нават шкодзіць беларускай дзяржаве."

На пытаньне, ці не хвалюецца ён, што ўдзел недзяржаўнага СМІ ў такога кшталту мерапрыемстве будзе выкарыстаны беларускімі ўладамі ў прапагандысцкіх мэтах, Алесь Ліпай адказаў наступнае:

«Хутчэй я выкарыстаю ў прапагандысцкіх мэтах тое, што мяне парэзалі, што была цэнзура. А канкрэтна — у мэтах прапаганды праўды таго, што насамрэч адбылося і што мне насамрэч паабяцалі».

**www.svaboda.org/content/article/25237700.html**

ЗАРОБКІ

# ЗАРОБАК БЮДЖЭТНІКАЎ ДАСЯГНУЎ ДНА

**Новы год пачаўся з заяў пра неабходнае павышэнне заробкаў работнікам «хуткай дапамогі». Тэма аказалася настолькі актуальнай, што і віцебскія, і брэсцкія медыкі далучыліся да патрабаванняў аб павышэнні заработнай платы. Інтэрнэт-газета Naviny.by вырашыла разабрацца, чаму ў бюджэтнай сферы з'явіліся сацыяльныя хваляванні і дзе выйсце з сітуацыі.**

Года павышэння заробкаў бюджэтнікі не адчулі

У 2013 шмат гаварылася аб высокіх тэмпах росту заработнай платы ў краіне, аднак гэты працэс назіраўся не ва ўсіх сферах. У прамысловасці, будаўніцтве рэальная (з улікам інфляцыі) заработная плата сапраўды прыкметна вырасла.

«У рэальным выражэнні да студзеня-лістапада 2012 заработная плата (за аналагічны перыяд 2013 — БелаПАН) вырасла на 17 % (прагноз на 2013 г. — на 7,1 %), у тым ліку: у будаўніцтве — на 30,3 %; ў гандлі — на 20,8 %, у сельскай гаспадарцы, паляванні і лясной гаспадарцы — на 20,0 %, на транспарце і ў сувязі — на 19,8 %, у прамысловасці — на 15,3 %», — паведамляецца ў студзеньскім аглядзе Міністэрства эканомікі.

Пры гэтым высокія тэмпы росту заробкаў у пералічаных відах эканамічнай дзейнасці не былі падмацаваныя адэкватным павышэннем прадукцыйнасці працы.

«Па-ранейшаму захоўваецца

*(працяг на стар. 4)*

ДЭНАМІНАЦЫЯ

# ПАКУЛЬ ЗАРПЛАТЫ МЕСЯЦЦА Ў КАШАЛЬКІ…

**Беларускія ўлады зноў загаварылі аб дэнамінацыі нацыянальнай валюты. Відаць, ім крыўдна , што з нашых мільёнаў смяюцца замежныя турысты і параўноўваюць з Зімбабвэ.**




Аднак праводзіць дэнамінацыю чыноўнікі пакуль не спяшаюцца, так як умовы яшчэ не паспелі. Падобна на тое, нулі прыбяруць толькі тады, калі зарплата перастане змяшчацца ў кашалькі.

Папярэдзім за паўгода

Як заявіў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з кіраўнікамі беларускіх СМІ 21 студзеня, ужо ёсць надрукаваныя рублі і капейкі. Выглядаць новыя грошы будуць «нешта блізка да еўра», так як спецыялісты лічаць, што такі іх выгляд найбольш прымальны.

Але ўмовы для правядзення дэнамінацыі яшчэ не паспелі, лічыць Аляксандр Лукашэнка - не такая добрая сітуацыя ў эканоміцы , ёсць пэўныя трывогі ў насельніцтва.

«Нават калі ў гэтым годзе адчуем, што эканоміка стала нармальнай, вам за паўгода аб'явім, - паабяцаў кіраўнік дзяржавы, маючы на ўвазе аб'яву дэнамінацыі. - Будзем яшчэ выбіраць, тры ці чатыры нулі адкінуць».

Такім чынам, як было адзначана на сустрэчы, у выніку дэнамінацыі курс беларускага рубля можа ўсталявацца як адзін да аднаго або адзін да дзесяці ў дачыненні да даляра.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што аб правядзенні дэнамінацыі насельніцтву будзе абвешчана за паўгода да яе даты, а потым яшчэ на працягу года будуць паралельна хадзіць новыя і старыя купюры.

«Мы падумаем са спецыялістамі, калі гэты перыяд прыйдзе. Тут трэба быць вельмі асцярожнымі, - сказаў кіраўнік дзяржавы. - Мы гатовы ў любы момант правесці дэнамінацыю. Але ўсё-такі нават для гэтага тэхнічнага кроку павінны быць пэўныя ўмовы. Ці не павінна быць такая працэнтная стаўка, не павінна быць трывог на рынку, каб насельніцтва не хвалявалася. І ў эканоміцы каб не было крызісных з'яў» .

Лукашэнка нагадаў, што ў Беларусі ў свой час ужо праводзілася дэнамінацыя і баяцца гэтага працэсу не трэба.

«Але мы не гатовыя пакуль да гэтага. І не столькі тыя органы, якія правядуць гэтую дэнамінацыю , колькі насельніцтва і эканоміка, - сказаў кіраўнік дзяржавы. - Я думаю, што пройдзем гэты складаны, крызісны этап. І нават калі ў гэтым годзе мы адчуем, што эканоміка цвёрда стане на рэйкі нармальнага руху, мы за паўгода аб'явім народу, што будзем праводзіць дэнамінацыю».

«Гарантую! Падманваць не буду», - сказаў Лукашэнка.

Незаслужаная ўвага

Фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра Альпары ў Мінску Вадзім Іосуб не бачыць вострай неабходнасці ў дэнамінацыі. На яго думку, увага да гэтай тэмы незаслужаная.

«Дэнамінацыя - гэта тэхнічнае мерапрыемства. Калі на купюрах і на цэнніках шмат нулёў, гэта стварае пэўныя нязручнасці. У першую чаргу для прыезджых, якія могуць блытацца ў гэтых нулях. На рост эканомікі, яе развіццё і ўстойлівасць гэта не ўплывае абсалютна. Нават нейкія асцярогі насельніцтва ў тым, што пры дэнамінацыі будзе акругленне у большы бок, цэны вырастуць, яны таксама некалькі перабольшаныя», - мяркуе эксперт.

У выпадку дэнамінацыі цэны ўвогуле не вырастуць альбо падвысяцца максімум на паўпрацэнта, кажа Вадзім Іосуб.

«У нас кожны месяц цэны вырастаюць больш», - дадае фінансавы аналітык.

Эканаміст Сяргей Чалы таксама бачыць асноўную пагрозу ад дэнамінацыі ў невялікім росце цэн і не бачыць асаблівага сэнсу ў ёй акрамя як для зручнасці рахунку.

Падобнага меркавання, дарэчы, прытрымліваецца і кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова. У прыватнасці, у маі 2012 года яна заяўляла, што не бачыць сэнсу ў дэнамінацыі, пакуль «яшчэ ў кампутары месяцца ўсе нулі, грашовыя паперы з многімі нулямі яшчэ месяцца ў кашалькі».

Вадзім Іосуб мяркуе, што дэнамінацыю варта праводзіць у выпадку, калі гадавая інфляцыя на працягу некалькіх гадоў будзе менш за 10 %.

«Маючы высокую інфляцыю, не варта праводзіць дэнамінацыю, так як праз некалькі гадоў апынецца, што яе трэба праводзіць паўторна», - кажа эксперт.

*(скарочана)*

**Аляксандр Ярашэвіч**

ЗАРОБКІ

*(пачатак на стар. 3)*

значны разрыў у тэмпах росту прадукцыйнасці працы і рэальнай заработнай платы — 14,9 працэнтнага пункта ў студзені-лістападзе 2013. Апераджальны рост рэальнай заработнай платы ў дачыненні да прадукцыйнасці працы забяспечваецца, але прыносіць урон фінансавай эфектыўнасці прадпрыемстваў», — тлумачаць спецыялісты Мінэканомікі.

А вось павялічваць зарплаты бюджэтнікам «на шкоду» казне дзяржава не стала. Рэальная заработная плата бюджэтнікаў у студзені-лістападзе 2013 у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года вырасла незаўважна: у дактароў — на 3,6 %, у настаўнікаў — на 2,7 %.

Улічваючы, што рост заробкаў у рэальным сектары істотна пераўзыходзіў тэмпы павелічэння заробкаў бюджэтнікаў, даходы апошніх на фоне іншых работнікаў зніжаліся. У адносінах да сярэдняй зарплаты ў краіне даходы бюджэтнікаў дасягнулі «дна», калі прааналізаваць сітуацыю за апошнія гады.

«Суадносіны зарплаты ў бюджэтнай сферы да яе ўзроўню ў цэлым па эканоміцы маюць тэндэнцыю да зніжэння: у 2011 годзе — 83,9 %, у 2012 годзе — 80,9 %, у студзені-лістападзе 2013г. — 74,5 %», - паведамляецца ў апошнім аглядзе Міністэрства эканомікі.

Няпрофільныя выдаткі высмоктваюць грошы з казны

Праблема заключаецца ў тым, што для павышэння заробкаў бюджэтнікаў грошай у казне … няма. Бюджэт на 2014-ы, прыняты беларускіх парламентам у канцы снежня, не прадугледжвае павышэння даходаў работнікаў бюджэтнай сферы.

«Бюджэт на бягучы год прадугледжвае, што рост намінальнай заработнай платы бюджэтнікаў магчымы толькі на ўзроўні інфляцыі, а рост рэальнай зарплаты — толькі ў выпадку скарачэння колькасці бюджэтных арганізацый і бюджэтнікаў», — канстатуе эканаміст даследчага цэнтра ІПМ Глеб Шымановіч.

Намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч, выступаючы ў парламенце восенню, адзначаў: крытычна важна, каб сярэдні заробак у бюджэтным сектары быў не ніжэйшы за 80 % ад сярэдняй зарплаты па краіне. Інакш пачынаюцца неспрыяльныя працэсы, звязаныя з адтокам кадраў з бюджэтнай сферы.

Тым не менш, да гэтага часу гэта суадносіны, як мы адзначалі вышэй, ужо апусцілася ніжэй за 75 %. Разам з тым, Мінфін канстатуе, што грошай у казне для павышэння рэальнага заробку бюджэтнікам на 2014 год не прадугледжана.

*(скарочана)*

**Дзмітрый Заяц**
**БЕЛАПАН**

ПОГЛЯД

# НЕТ ПРОБЛЕМ

**Пресс-конференция Лукашенко вновь прошла в духе «петух прокукарекал, а там хоть не рассветай».**

По крайней мере, так выглядели теле- и газетные версии встречи главы государства с главными редакторами. Серьезных проблем в стране нет, твердо идем своей дорогой, и даже мама президента говорит, что жить стало лучше…

Честно говоря, мне тоже лучше. Например, с годами научилась говорить любому дураку, что он дурак. Хотя моя мама учила, что делать этого не нужно, поскольку такое поведение грубое и нетактичное. Однако, как выяснилось, в долгосрочной перспективе это умение очень облегчает жизнь.

А уж насколько лучше стало жить человечество! Телефон сейчас может быть не только в каждом доме, но и в каждом кармане, давно нет надобности устраивать постирушки в проруби, да и в сорок лет никто не чувствует себя глубоким стариком, каковыми в этом возрасте были наши предки.

На том, собственно, мир и держится. Потому и не погибли «хомо сапиенс» как биологический вид, что научились делать так, чтобы с годами и жить, и умирать становилось лучше, комфортнее. Мы все вместе этому научились. Хотя некоторые чудаки до сих пор зовут людей в натуральное хозяйство и призывают лечить болезни не с помощью врачей, а с помощью молитв.

Дети растут, солнце встает, зима сменяет осень, а девяностую весну своей жизни обязательно ценишь больше, чем первую… Нечем тут хвастаться.

Повод для радости - это когда какую-то проблему ты, наконец, решил. Но Лукашенко важно другое - прокукарекать, что проблем нет.

Дома строятся. Хотя это не значит, что мы решили или знаем, как решить жилищную проблему и сделать квартиры доступными.

Модернизация идет полным ходом. Но модернизированные предприятия работают ничуть не лучше, чем их коллеги-старички, оказываются в еще большей финансовой яме, в еще больших долгах.

Спорт этот несчастный… Лукашенко своими руками много лет создавал беспрецедентную систему поддержки спорта. В итоге слово «спортсмен» скоро войдет в наш лексикон как уничижительно-ругательное.

Белорусы не говорят по-белорусски – подождем, может, рассосется. Народ в секстиллионах считать не научится – уберем с денег лишние нули, тем более, что не впервой. Что будет со страной через 30 лет? Что-то будет…

Нет проблем! Не должно быть! Не рассветай!

**Светлана Калинкина**
**«Народная воля»**

РЭХА МАЙДАНА

# БАРАНІЦЬ СВАБОДУ ТРЭБА ЎВЕСЬ ЧАС

**Украінцы, змагаючыся на Майдане за сваю свабоду, за еўрапейскі шлях развіцця краіны, падстаўляюць плячо і беларусам, паказваючы прыклад адстойвання сваіх правоў і свабод, - лічыць старшыня Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч:**

- Не бывае ў палітыцы чагосьці, што падае бясконца з неба, - без самаахвярнасці, без барацьбы за гэта. Нават у дэмакратычных краінах бараніць свабоду трэба ўвесь час. Таму што заўсёды ёсць тэндэнцыі да ўзмацнення, да жорсткасці ўлады, да абмежавання дэмакратыі. І ўкраінцы паказваюць вельмі добры прыклад гэтым шырокім народным рухам. Людзі і старэйшыя, і маладзейшыя кажуць увесь час гэтае слова, можа я не вельмі яго люблю, але яно адпавядае: мы не хочам быць быдлам.

Таму значнасць апошніх падзей ў Кіеве у тым, што ўкраінскі народ дэманструе, што ўжо ніколі не будзе маўклівым натоўпам, якім нас усіх спрабавалі зрабіць у савецкія часы, - упэўнены Аляксандр Мілінкевіч.

**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197. Газета выдаецца з траўня 2003 г.

**Падпісана да друку** 29.01.2014 у 17.10
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.